ТВ-программа на неделю

№ 152 (1216)

Субота, 18 жніўня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

**Надвор'е**

Сёння ўдзень — пераважна без ападкаў. Вецер няўстойлівы, 3–8 м/с. Тэмпература паветра ўначы — +13...+18, удзень — +25...+30.



ПУЛЬС

## Агітуйце на адкрытым паветры

**Кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Уладзімір Ганчарык звярнуўся з лістом у Цэнтрвыбаркам. Ён прапаноўвае ЦВК прыняць спецыяльную пастанову аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў на адкрытым паветры і ў закрытых памяшканнях у перыяд выбарчай кампаніі.**

У.Ганчарык нагадвае, што летась падчас кампаніі па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў мясцовыя чыноўнікі нярэдка патрабавалі ад прэтэндэнтаў і палітычных партый праводзіць масавыя агітацыйныя мерапрыемствы на адкрытым паветры ў адпаведнасці з законам "Аб парадку правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання". Толькі пасля растлумачэння ім нормаў Выбарчага кодэкса і прывядзення адпаведнай аргументацыі яны прызнавалі неправамоцнасць сваіх дзеянняў.

Кіраўнік Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай прапаноўвае з мэтай пазбягання паўтарэння падобных сітуацый прыняць спецыяльную пастанову. Пры гэтым кандыдат у прэзідэнты мяркуе, што "ў перыяд выбараў грамадзяне Рэспублікі Беларусь, палітычныя партыі, іншыя грамадскія аб'яднанні, працоўныя калектывы, давераныя асобы кандыдатаў у прэзідэнты, дэпутаты, ініцыятыўныя групы, якія праводзяць агітацыю, могуць для гэтых мэтаў праводзіць сходы і мітынгі, а таксама сустрэчы з выбаршчыкамі, не звяртаючыся па спецыяльны дазвол у мясцовыя выканаўчыя органы ўлады".

**Уладзімір ГЛОД.**

## Міліцыя і "скіны" супраць "Выбірай"

**Пад Мар'інай Горкай (Мінская вобласць) мясцовыя "скінхэды" збілі сябраў Маладзёжнага форуму, які ладзіцца ў гэтыя дні ў рамках мабілізацыйнай кампаніі "Выбірай!".**

Напрыканцы першага дня працы форуму маладыя людзі-удзельнікі ладзілі вогнішча каля возера Мацярынскае (паміж гарадскімі пасёлкамі Свіслач і Дружнае). Нечакана на беразе з'явіліся каля 30 скінхэдаў, узброеных каламі, кастэтамі і ланцугамі. Адразу скіраваўшыся да вогнішча, "дамарошчаныя" фашысты распачалі бойку. Як расказвае адзін з удзельнікаў гэтага інцыдэнту Алесь, "скінхэды з крыкамі "Слава России!" спалілі бел-чырвона-белы сцяг, які вісеў над летнікам".

Паказальна, што пасля таго, як фашысты збеглі, прыехала мясцовая міліцыя, хаця яе нават не паспелі выклікаць. Ахоўнікі правапарадку не сталі слухаць пацярпелых, а заявілі, што тыя "самі вінаватыя і самі нясуць адказнасць за людзей, якіх сабралі". Як толькі міліцыя з'ехала, скінхэды зрабілі другі напад на летнік. У выніку бойкі некаторыя форумаўцы былі моцна збітыя.

## Аматары БАТЭ прыйдуць на выбары

**Футбольныя фаны далучаюцца да кампаніі "Выбірай!"**

17 жніўня падчас сустрэчы барысаўскага футбольнага клуба БАТЭ з "Нафтанам" (Наваполацк) сябры маладзёжнай кааліцыі "Акцэнт" распаўсюдзілі спецыяльныя буклеты. Яны былі распрацаваныя моладдзю адмыслова для мэтавай групы футбольных фанаў БАТЭ. Буклет "БАТЭ будзе чэмпіёнам! Фінал 9 верасня. Не прапусці!" змяшчае расклад гульняў БАТЭ II круга. 9 верасня, у дзень прэзідэнцкіх выбараў, барысаўскі клуб будзе гуляць у Рэчыцы, таму аматарам нагадваюць: "Матч на выездзе. Схадзі на выбарчы ўчастак!". Перад гульнёй 17 жніўня ля білетных кас будзе змешчаны шчыт з заклікам да футбольных заўзятараў прагаласаваць на прэзідэнцкіх выбарах.

**Сяргей БЯЛЕВІЧ.**

## "Ланцуг неабыякавых людзей" у Гродне

16 жніўня, у дзень рабочага візіту Аляксандра Лукашэнкі на Гродзеншчыну, у раёне Савецкай плошчы абласнога цэнтра адбылася акцыя "Ланцуг неабыякавых людзей".

Акцыю ладзілі сябры Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Каля сотні чалавек выстраіліся ўздоўж тратуара з партрэтамі зніклых Дзмітрыя Завадскага, Віктара Ганчара, Юрыя Захаранкі, Анатоля Красоўскага. Прахожыя з цікавасцю бралі спецвыпуск "Народнай волі", які раздавалі арганізатары акцыі. Большасць людзей, на жаль, нічога не ведала пра зніклых, а хто-ніхто нават пытаўся: "Гэта хто — кандыдаты ў прэзідэнты, за якіх агітуеце?" Або і такое даводзілася чуць удзельнікам мерапрыемства: "Што, Лукашэнку сустракаеце?" "Не, праводзім — у апошні шлях", — з'едліва пажартавала адна з дзяўчат у "ланцугу".

Падчас акцыі, якая доўжылася каля гадзіны, уздоўж тратуара няспынна патрулявалі міліцэйскія машыны. А твары ўдзельнікаў "ланцуга" старанна здымаў на відэакамеру чалавек у цывільным — як стала вядома, не аператар тэлебачання.

**Станіслаў СТОКА.**

## У Антопалі затрыманы ўдзельнік "Руху добрай волі" Алесь Ляўчук

У гарадскім пасёлку Антопаль Драгічынскага раёна (Брэсцкая вобласць) затрыманы Алесь Ляўчук, удзельнік "Руху добрай волі", які з 5 па 20 жніўня праходзіць у Брэсцкай вобласці.

У Антопалі ўдзельнікі руху раздавалі мясцовым жыхарам календары і запрашалі іх прыйсці на прэзідэнцкія выбары. Алесь Ляўчук зайшоў у мясцовы сельсавет і падарыў старшыні "Канстытуцыю Белабрысіі" — сатырычны твор групы брэстаўчан. Старшыня сельсавета выклікаў міліцыю, якая затрымала Леўчука. Пасля высвятлення абставін яго адпусцілі.

Падарожжа "Рух добрай волі" прайшло ўжо палову шляху да Брэста. Яго ўдзельнікі наведалі больш за 30 вёсак вобласці, а таксама Столін, Пінск і Іванава. За гэты час было распаўсюджана некалькі тысяч асобнікаў газеты "Брестский курьер" са спецвыпускам "Свободная зона" і календары.

Падарожжа "Рух добрай волі" прыцягвае пільную ўвагу праваахоўных органаў. Падарожнікаў пастаянна суправаджаюць аўтамабілі з супрацоўнікамі КДБ. На прадпрыемстве "Брэстаблпошта" ўзнік скандал з-за таго, што 4 тысячы асобнікаў "Брестского курьера" былі накіраваны ў Пінск для ўдзельнікаў "Руху добрай волі". 16 жніўня на сустрэчу з кіраўніцтвам упраўлення КДБ па Брэсцкай вобласці запрашаліся журналісты газеты "Брестский курьер".

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## До выборов Президента Республики Беларусь осталось 22 дня




## ФОРУМ

## Выбаршчыкі задаюць пытанні Уладзіміру ГАНЧАРЫКУ

**— Паважаны Уладзімір Іванавіч, які будзе далейшы лёс "бацькі" пасля Вашага выбрання на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь?**

— За памылкі ў эканоміцы ніякай адказнасці быць не можа. І калі на дзеючым кіраўніку дзяржавы няма крыві — што ж, лепшым бачыцца расійскі варыянт. Былы прэзідэнт будзе атрымліваць пенсію, карыстацца ўсімі прывілеямі, якія гарантуюцца быламу прэзідэнту ва ўсіх краінах свету.

**— Спадар Ганчарык, як Вы ставіцеся да беларускіх нацыяналістаў і да нацыяналізму ўвогуле?**

— Як кажуць нашыя суседзі палякі: "Цо занадто — то не здрове". Здаровае пачуццё гонару за тое, што ты беларус, гонару за сваю краіну — гэта цудоўна. Але ж мы з вамі ведаем прыклады, калі пачуццё нацыяналізму вырастала да нездаровых маштабаў і пераўтваралася ў расізм. Гісторыя фашысцкай Германіі — лепшы таму доказ. Таму не трэба кідацца з адной крайнасці ў іншую, папросту трэба ведаць і шанаваць гісторыю сваёй краіны, любіць яе і працаваць дзеля яе росквіту з усяе моцы. Каб ганарыліся Беларуссю суайчыннікі, каб паважалі замежныя суседзі.

**— Ці ёсць у Вас хобі, захапленні?**

— Лепшы адпачынак для мяне — прагулкі па лесе, але, на жаль, апошнім часам на адпачынак даводзіцца забыцца. У юнацтве захапляўся футболам, валейболам. Зараз займаюся бегам. Хаця часу катастрафічна не хапае, усё ж неяк імкнуся падтрымліваць спартыўную форму. Час ад часу атрымліваецца згуляць з унукамі ў футбол. Мару, што потым, калі пайду на пенсію і вольнага часу будзе колькі заўгодна, з'явіцца магчымасць больш чытаць ці нешта пісаць, ці займацца любімай справай — сталярствам.

**— Ці прызнаеце Вы вынікі рэферэндуму 1996 года? Калі не, то чаму балатуецеся ў прэзідэнты згодна з Канстытуцыяй-96? Калі так, то з якога часу Вы яе падтрымліваеце?**

— На так званым першым усебеларускім сходзе, мэтай якога была менавіта падтрымка змен у Канстытуцыі Беларусі, прапанаваных прэзідэнтам, я ўжо выказаў свае адносіны да гэтага пытання. Тады, у прэзідыуме гэтага сходу, я прагаласаваў супраць.

Што тычыцца тэзіса аб тым, прызнаваць ці не Канстытуцыю-96 і, як вынік, не ўдзельнічаць у выбарах. Не прымаць удзел — значыць, даць магчымасць Лукашэнку застацца ва ўладзе. І перад гэтым фактам усе спрэчкі наконт таго, Канстытуцыя-94 ці 96, адыходзяць на другі план.

Акрамя таго, упэўнены, што першай асноўнай праблемай наступнага прэзідэнта нашай краіны будзе эканоміка, эканамічныя рэформы. Далей сапраўды неабходна будзе правесці канстытуцыйныя змены: абмежаваць асабістую ўладу прэзідэнта, даць паўнамоцтвы парламенту, аднавіць мясцовае самакіраванне. Галоўнае ж — аб'яднаць людзей, аб'яднаць нацыю.

**— Як у Вас з беларускай мовай?**

— Я нарадзіўся, жыву і працую ў Беларусі, з маленства чуў і ведаю беларускую мову. Заўсёды на сустрэчах, на прэс-канферэнцыях, калі да мяне звяртаюцца па-беларуску, я з задавальненнем і без праблем размаўляю на роднай мове. Магчыма, яшчэ і таму люблю прыязджаць у вёску да маці, да сваіх сваякоў.

Для развіцця нашай мовы неабходна стварыць усе неабходныя умовы. І я буду сур'ёзна займацца гэтым. Трэба дадаць, што адраджэнне мовы шчыльна звязана з адраджэннем беларускай культуры цалкам.

*(Працяг чытайце ў наступных нумарах "Народнай волі". Задавайце калі ласка, і свае пытанні, паважаныя чытачы.)*

**Адрас Інтэрнэт-старонкі Уладзіміра Ганчарыка: www.goncharik.org**

## Слухайце і глядзіце радыё і тэлевізар – ацэньвайце кандыдатаў на пасаду прэзідэнта Беларусі

**Сяргей ГАЙДУКЕВІЧ**

**БТ:** 21 жніўня з 18.30 да 19.00; 28 жніўня з 18.30 да 19.00
**БР**: 23 жніўня з 8.30 да 9.00; 30 жніўня з 8.30 да 9.00

**Уладзімір ГАНЧАРЫК**

**БТ:** 22 жніўня з 19.00 да 19.30; 29 жніўня з 19.00 да 19.30
**БР**: 24 жніўня з 8.00 да 8.30; 31 жніўня з 8.00 да 8.30

**Сямён ДОМАШ**

**БТ:** 21 жніўня з 19.00 да 19.30; 28 жніўня з 19.00 да 19.30
**БР**: 23 жніўня з 8.00 да 8.30; 31 жніўня з 8.30 да 9.00

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА**

**БТ**: 22 жніўня з 18.30 да 19.00; 29 жніўня з 18.30 да 19.00
**БР**: 24 жніўня з 8.30 да 9.00; 30 жніўня з 8.00 да 8.30

ЗАЦЕПИЛО!

## Словесная эквилибристика

Вопросы без ответов. Так можно назвать материал корреспондента "Народной воли" Марины Коктыш с пресс-конференции А.Г.Лукашенко. Конкретный пример:

*Вопрос журналиста:* — Аляксандр Рыгоравіч, усё ж такі, ці можаце Вы адназначна адказаць на пытанне: ці жывыя Ганчар, Захаранка, Красоўскі і Завадскі?

*Ответ А.Лукашенко:* — Вы, наверное, информацией обладаете большей даже чем я, судя по тому, что Вы в последнее время публикуете. Поэтому я думаю, что я Вам должен задать этот вопрос.

Если бы А.Лукашенко сказал: "Да, они живы", "Их нет в живых" или "Я не знаю", это был бы ответ. А так вместо ответов — словесная эквилибристика. Зачем так делать? Думаю, исключительно для того, чтобы дать повод своим средствам массовой информации утверждать: мол, видите какой открытый президент — дает ответы на любые вопросы. Но вся соль в том, что вопросы есть, а ответов нет. Зачем народ держать за дураков?

Если Лукашенко считает, что обнародованные прессой ксерокопии рапортов генерала Лопатика и полковника Алкаева — подделка, почему бы не подать в суд на газеты, которые все это опубликовали? Тем более и прецедент имеется. Все помнят, как В.Шейман блестяще выиграл в суде "дачное" дело. А ведь обвинения в убийствах людей — намного серьезнее. Однако Шейман молчит. Почему?

Александр Григорьевич! А Вы что молчите? Если документы действительно поддельные — действуйте: подавайте в суд на Гончарика. И если Шейман, Сиваков и Павличенко дело выиграют, Гончарик вынужден будет сойти с президентской дистанции. И тогда я — клянусь — на выборах проголосую за Вас. Если Вы этого не сделаете, значит, все написанное в этих документах — чистая правда. Тогда уже Вы по нравственным (и не только) соображениям должны отказаться от президентской гонки.

Однако, как явствует из Ваших слов на совещании 31 июля, власть Вы намерены удержать при любом исходе выборов. Тогда неясно — зачем их проводить? Не проще ли средства, предназначенные на избирательную компанию, отдать колхозам на бензин?

**Евгений АЕВ, Витебская область.**

ГДЕ ЭТО ВИДАНО...

## Дроздовский синдром

Журналисты, которые присутствовали во Дворце республики на торжественно-праздничной церемонии вручения регистрационных удостоверений квартету кандидатов в президенты Беларуси, обратили внимание на одно странное обстоятельство — в зале не оказалось иностранных дипломатов. Хотя абсолютно точно известно, что такое желание со стороны дипкорпуса было. Более того, кое-кто из послов был замечен у стен Дворца. Но на церемонию они не попали.

Оказывается, первоначально приглашения главам дипломатических миссий посетить процедуру вручения регистрационных удостоверений кандидатам в президенты были разосланы. Однако затем их решили аннулировать. В спешке, видимо, не всем дипломатам об этом сообщили. Одним словом, получился очередной конфуз с налетом синдрома Дроздов.

Только один дипломат — Чрезвычайный и Полномочный посол Туркменистана в Беларуси и одновременно Постоянный представитель Туркменистана в СНГ Илья Вельджанов сумел проникнуть на церемонию. И это не удивительно, ведь Илья Вельджанович — дуайен дипломатического корпуса и тем самым имеет определенные преимущества перед другими, аккредитованными в Минске. А может, дело не только в этом. Илья Вельджанов к тому же еще и генерал. Кстати, в дипломатических кулуарах я слышал любопытное утверждение: мол, он — единственный туркмен, который закончил академию Генерального штаба. Но, я думаю, дело даже не в этом. В свое время генерал Вельджанов был заместителем командующего Белорусского военного округа. И с той поры он хорошо знает белорусские порядки.

**Владимир ГЛОД.**

БЕСПРЕДЕЛ

## Компьютерная война с "Ратушей"

Сотрудниками ОБЭП управления внутренних дел облисполкома изъята вся компьютерная техника Гродненского областного общественного объединения "Ратуша". Это — результат еще не закончившейся проверки финансово-хозяйственной деятельности объединения, осуществляемой с начала месяца Комитетом государственного контроля Гродненской области. А основанием для изъятия компьютеров послужило письмо председателя комитета Николая Ковалева начальнику УВД Анатолию Белошевскому.

— По меньшей мере странно выполняли указание вышестоящего начальства прибывшие к нам сотрудники ОБЭП во главе с майором Сергеем Буча, потому что в письме перечислялась совсем другая "спорная" техника, — говорит председатель ГООО "Ратуша" Александр Милинкевич, возглавляющий предвыборный штаб кандидата в президенты Семена Домаша. — А забрали все семь современных компьютеров, что находились в нашем офисе. Похоже, что из-за них и затевалась проверка — с целью завладеть компьютерами, а значит, и их электронными базами данных и разработками по президентской избирательной кампании. Ставилась, понятно, и задача парализовать деятельность "Ратуши" как ресурсного центра, помогающего ряду негосударственных организаций. Доказывает это и та поспешность, с которой изымали компьютеры. Была ведь договоренность с осуществляющим проверку сотрудником Комитета госконтроля Семеном Гецманом, что я приеду из Минска, чтобы ответить на некоторые вопросы, касающиеся наших прав на владение оргтехникой. Но ее уже упаковывали, когда я на два часа раньше оговоренного срока прибыл в "Ратушу". Обэповцы торопились и явно нервничали. Не понравилось им и то, что наши сотрудники опечатали печатью "Ратуши" упаковки — это хоть какая-то гарантия предупредить несанкционированный доступ к электронным базам данных.

Формальным поводом для изъятия компьютеров явилось "отсутствие" в "Ратуше" документов на право владения ими. А вернее — таинственное исчезновение в ходе проверки соответствующего договора. Документ этот в начале проверки предоставлялся Семену Гецману, но затем при весьма загадочных обстоятельствах, напоминающих загодя спланированную провокацию, пропал. Улетучился бесследно вместе с его ксерокопиями.

Через неделю после этого общественному объединению удалось восстановить злополучный договор. И Александр Милинкевич вновь приехал в Гродно, чтобы встретиться с работниками ОБЭП и Комитета госконтроля. Встречи эти, по его словам, позволяют надеяться, что компьютеры будут все же возвращены. А вот штрафных санкций не удастся избежать. Неугодной властям "Ратуше", разумеется, а не милиции и госконтролю. Их действия власти сомнению не подвергают.

Кстати, на июльской пресс-конференции председатель областного Комитета госконтроля Николай Ковалев заявил, что его ведомство не занимается поиском и перекрытием источников финансирования оппозиционных общественных организаций...

А через две недели ответственный госконтролевский работник появился в офисе "Ратуши". С предписанием проверить ее финансово-хозяйственную деятельность. И, само собой разумеется, проследить источники финансирования общественного объединения, работающего отнюдь не на поддержку нынешнего режима.

Остается только догадываться, кто отдал команду основательно потрясти "Ратушу". Но наверняка не само областное госконтролевское и милицейское начальство...

**Вячеслав БАЛАМУТ. Гродно.**

З ПОШТЫ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

## Можа, гэта скалыхне людзей...

Шаноўны спадар Сярэдзіч!

Перадвыбарчая барацьба становіцца ўсё больш жорсткай. Усёй душой жадаю і спадзяюся, што пераможа апазіцыя. Але ж баюся, што барацьба хістае толькі верхавіны дрэў, так бы мовіць, а ўнізе нашы "памяркоўныя" людзі не вельмі ведаюць пра ўсё тое, што стала набыткам апазіцыйных СМІ ў апошні час. Хачу звярнуцца да ўсіх чытачоў "Народнай волі", "Свабодных навін" і іншых газет. Давайце рабіць, як прынята на Захадзе — пакідаць іх пасля прачытання на прыпынках, у транспарце і ў іншых месцах, дзе іх могуць узяць і прачытаць людзі, якія дагэтуль і ў руках іх не трымалі. Можа, гэта скалыхне людзей і прымусіць іх задумацца.

**Вольга СУДАЯНКОВА (прозвішча неразборлівае), выкладчыца.**

ПУЛЬС

## Падпольная майстэрня ў Брэсце

**Супрацоўнікі ўпраўлення па Брэсцкай вобласці Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС сумесна з супрацоўнікамі УКДБ па Брэсцкай вобласці раскрылі падпольную майстэрню, дзе на выкрадзеных аўтамабілях перабіваліся ідэнтыфікацыйныя нумары.**

У канцы ліпеня з гаража ў брэсцкім мікраёне Паўднёвы быў выкрадзены аўтамабіль "Аўдзі А4". Па факце крадзяжу Маскоўскім РАУС Брэста была ўзбуджана крымінальная справа. Падчас аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў супрацоўнікамі ўпраўлення Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй было ўстаноўлена, што па завулку Школьным у Брэсце знаходзіцца майстэрня, дзе перабіваюць індэнтыфікацыйныя нумары на выкрадзеных аўтамабілях. Падчас вобыску ў гэтай майстэрні былі знойдзены выкрадзены аўтамабіль "Аўдзі А4", а таксама аўтамабілі "Рэно-Сафран" і "БМВ-524" без рэгістрацыйных нумароў і дакументаў. У гэтым гаражы былі знойдзены аўтамабільныя рэгістрацыйныя нумары Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі. Тут жа знаходзіліся дакументы і прыстасаванні, якія выкарыстоўваліся для пераробкі ідэнтыфікацыйных нумароў аўтамабіляў.

Асобы, якія ўчынілі крадзёж "Аўдзі А4", устаноўлены і зараз знаходзяцца ў вышуку.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Да 125-годдзя Мінскага пажарнага таварыства

**У паштовы абарот уведзены мастацкі канверт з арыгінальнай маркай, прысвечаны 125-годдзю Мінскага пажарнага таварыства.**

У Беларусі супрацьпажарная ахова як асобная служба ў гарадах, якія валодалі Магдэбургскім правам (феадальнае гарадское права на самакіраванне, што склалася ў нямецкім горадзе Магдэбургу ў XII-XIII стагоддзях), вядомая з пачатку XVI стагоддзя. У Мінску ў 1853 годзе была створана прафесійная пажарная ахова, у 1876 годзе пераўтвораная ў Мінскае свабодна-пажарнае таварыства.

У 1927 годзе ў краіне сфарміраваны аппарат Дзяржаўнага пажарнага нагляду. З 1999 года служба ваенізаванай пажарнай аховы ўваходзіць у сістэму Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Беларусі. У гэтым жа годзе краіна стала членам Міжнароднага тэхнічнага камітэта па папярэджанні і тушэнні пажараў, заснаванага ў 1902 годзе.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Если нарушены Божьи заповеди...

Здравствуй, уважаемая редакция!

Хочу обратиться к христианам Беларуси, стремящимся строить свою жизнь по основным заповедям Библии. И с этой точки зрения оценить (как гражданин и христианин имею право!) деятельность нашего "всенародноизбранного" А.Г.Лукашенко.

Бог донес до людей десять заповедей, соблюдать которые должен стремиться любой христианин. Каково же отношение к ним нашего "православного атеиста"? Назову хотя бы несколько из заповедей, а вы задумайтесь.

Итак (Исход, гл.20):

**"Да не будет у тебя других Богов..."**

Для А.Г. есть один Бог — он сам.

**"Не сделай себе кумира..."**

Кумир Александром Григорьевичем был публично назван: это Адольф Гитлер.

**"Почитай отца твоего и мать твою..."**

Знать бы ему, кого почитать...

**"Не убивай!"**

Без комментариев — их сделает каждый сам.

**"Не кради".**

Ха-ха...

**"Не произноси ложного свидетельства..."**

Он уже и сам себе не верит.

Как видите, братья и сестры, Божьи заповеди нашим сегодняшним правителем нарушены, и не раз. Значит, эта власть не от Бога. А если вспомнить строки основной молитвы нашей — "...но избавь нас от лукавого", то и вовсе все должно быть ясно.

Будьте, христиане, благословенны. И думайте своей головой, а не живите чужими лживыми внушениями.

**А.ШЕЙСИНА, Минск.**

СЛОВА ПАЭТА

## Прачніся, народ!

**Анатоль ЗЭКАЎ**

У час, калі столькі турбот
і гэтулькі рознага ліха,
прачніся, мой ціхі народ,
і думку адкінь "абы ціха".

Свой голас падай сёння ты,
пакуль твая песня не спета,
і супраць прамоўцаў пустых,
і супраць жыцця без прасвету.

Скінь думак чужых з сябе цень,
а май лепш уласны свой розум.
Устань жа нарэшце з калень,
зрабіся нарэшце цвярозым.

Адрынуўшы безліч турбот
і скінуўшы рабскія робы,
ўзніміся за мёртвых, народ,
за тых, каго знішчыў Чарнобыль.

Прачніся, народ, не маўчы
і скінь з вачэй цёмныя шоры.
Іначай цябе лаўкачы
у статак жывёл пераўтвораць.

Прачніся, народ, між турбот
душой, што век прагла свабоды.
Сягоння твой выбар, народ,
каб прама сказаць, за каго ты.

І час гэты ты не ўпусці
у клопатных дзён перагудзе.
Ў цябе сёння шанц у жыцці,
якога ўжо заўтра не будзе!

Мае бацькі не мелі волі.
Таму за ўсё жыццё, відаць,
займелі прыгаршчы мазоляў,
што і цяпер яшчэ смыляць.

Рукам мазольным пелі славу
пад медалёў парадны звон.

А мне ўсё ж крыўдна за дзяржаву,
што так ваніла іх спакон.
Хоць за бацькоў не меней крыўдна:
век пражылі, нібы валы,
а вось, глядзі ты, не абрыдла —
і сёння хваляць час былы!

***

Між ісцін кніжных
шукаю смелай,
як сёння выжыць
на свеце белым,
калі навокал
жыццё-бяспраўе;
калі на вокны
рашоткі ставім;
мацуем дзверы,
бы крэпасць, дома —
ніхто не верыць
ні ў чым нікому.
А што там будзе,
скажыце, заўтра,
калі ўжо й людзям
патрэбна варта?
Няўжо пад страхам
нам жыць да скону?
Як так, то крах нам
усім, вядома.
О, Божа мілы,
адкрый сакрэт ты:
няўжо стаім мы
на краі свету?

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

# ТРОПА НЕЗДОРОВЬЯ

## Высокопарные, широковещательные заявления А.Лукашенко, касающиеся "заботы о здоровье нации" – не более чем самореклама и дешевый популизм

**Александр ОЛЬХОВОЙ**

### Черный день

Немало ярких слов и пышных фраз А.Лукашенко посвятил своей горячей любви к "вооруженным защитникам Отечества", как и заботе государства об их здоровье. И тут немало популизма, демагогии, стремления выдать желаемое за действительное. Чтобы понять это, достаточно побывать в 432-м Главном военном клиническом госпитале (ГВКГ), расположенном в Минске по ул.Варвашени, 26.

Госпиталь почти круглогодично переполнен больными солдатами, сержантами, офицерами и генералами, в том числе находящимися в запасе и отставке. Богатейшее своей славной боевой историей на всем постсоветском пространстве (если не ошибаюсь, через четыре года ГВКВ исполнится двести лет!), это главное военно-лечебное учреждение республики находится ныне, скажу без преувеличения, в положении побирушки. Вдумайтесь: в 2000 году 432-й ГВКВ по материально-техническому, медицинскому снабжению профинансирован лишь на 12 процентов. А за май текущего года... на 8,8 процента. Но начальник госпиталя полковник медицинской службы Святослав Федорович Савицкий вместе со своими заместителями и этому "мизеру" рады: ведь в январе родимое Министерство обороны смилостивилось на нужды госпиталя "отпустить"... 0,9 процента тех денежных средств, что требовались. Медики вынуждены "выкручиваться", закупать наиболее дешевые лекарства и препараты, которые, конечно же, малоэффективны.

Один знакомый подполковник, лечившийся в госпитале после инфаркта, рассказывал. **"Припрятанные на "черный день" антибиотики делили буквально по крохам, с оглядкой на завтра. Я присутствовал при том странном дележе и знаю, какую неловкость испытывали все его участники... По ночам мы долго не могли уснуть, вздрагивая от каждого скрипа половицы наверху и боясь, как бы деревянные перекрытия не рухнули на наши головы и не похоронили под обломками. Это были вполне оправданные опасения: нечто подобное уже случалось. В предпоследний день октября, за несколько часов до киносеанса, обвалился... потолок в местном клубе, рассчитанном на 350 посадочных мест. Только Божья милость оградила тогда республику от страшной беды, которая по своим масштабам могла бы затмить трагедию на станции метро "Немига"..."**

Если даже головное военно-лечебное учреждение переполнено больными, если даже здесь в коридорах стоят больничные койки, если в тумбочках многих больных лежат ампулы, таблетки, микстуры, растворы для капельниц, шприцы, лекарства принесенные матерями, отцами, женами, сестрами и братьями, сыновьями и дочерьми по причине отсутствия таковых в госпитальной аптеке, то что можно говорить о лечебно-медицинских учреждениях и подразделениях на местах, в гарнизонах, на "точках"?

Не так давно, в канун Дня медицинского работника, зашел в госпиталь и в Центральную военную поликлинику (они расположены "встык") поздравить знакомых врачей, медсестер с их профессиональным праздником. Хотелось пожелать всего наилучшего, поблагодарить за доброту и сердечность, самоотверженность в работе Александра Сергеевича Крючкова, Владимира Александровича Пландовского, Надежду Михайловну Егорову, Веру Константиновну Коптюхину, Жанну Владимировну Томиленко, Людмилу Григорьевну Токарь, Галину Владимировну Максименко, Антонину Ивановну Малахову... Старался говорить им бодрые, высокие слова, но в глазах некоторых, особенно "младшего медперсонала", видел отчаяние, какую-то безысходность, потерянность...

Сестра-хозяйка Марина Петровна Мазуревич буквально закипала от обиды: "Аванс выдают в конце месяца, 28—30 числа. Какой же это аванс?! Зарплата у меня — шестьдесят тысяч. Почти столько, сколько у моей знакомой, работающей уборщицей в гастрономе. Но ведь у меня материальных ценностей на миллиарды рублей! Где справедливость?"

А ведь этот вопрос, как и все проблемы, о которых я рассказал выше, — не ко мне, а к вам, Александр Григорьевич. Как к ГЛАВНОКОМАНДУЮЩЕМУ. К человеку, главному нашему УПРАВЛЯЮЩЕМУ, который, по Вашему же утверждению, "отвечает за все". Как можно в такой ситуации, при столь бедственном положении армейской (да и гражданской) медицины строить шикарные ледовые дворцы, куда детям простого трудового люда просто "нет хода", проводить всевозможные фестивали, "базары", смотры, "дажынкі", дни и съезды? А сейчас вот и учения "Неман-2001".

### Знает, но молчит

Под лежачий камень, как известно, вода не течет. Вот и люди, озабоченные тем, что госпиталь-старожил — спаситель и надежда многих жителей республики — стал вдруг обузой и для родного министерства, и для не менее родимой державы, не раз предпринимали попытки "достучаться" до А.Лукашенко. Факт этот не нов: о нем, как и о многом другом, весьма впечатляюще рассказал некоторое время назад известный белорусский журналист Николай Куц на страницах еженедельника "7 дней": **"...Группа ветеранов из 200 человек, не найдя понимания у руководства военным ведомством, предприняла отчаянную попытку выйти на главу государства. Идея была проста: проинформировать Верховного о проблемах ГВКВ, а заодно просить его помощи в спасении старейшего лечебного заведения. Я читал то письмо, подписанное известными людьми. Это был и крик души старых, но неравнодушных граждан, и одновременно предостережение о возможных скорых бедах. Попади оно в руки адресата, и лед бы обязательно тронулся, а все проблемы были бы со временем решены. Увы, не попало. Из Администрации президента ветеранское обращение отправилось по хорошо налаженному бюрократическому маршруту: Министерство обороны — Главный штаб Вооруженных Сил — медслужба Главного штаба... Круг замкнулся".**

От себя замечу: автор зря надеется на то, что "попади письмо в руки адресата, и лед бы обязательно тронулся, а все проблемы были бы со временем решены". Разве Лукашенко не знает, что при его правлении чуть ли не поголовно все взрослое население республики пьет горькую, не просыхая, о чем не без злорадства пишет российская пресса? Что наши женщины уже пьют водку наравне с мужчинами? И что женский алкоголизм вызывает у наркологов не меньшую тревогу, чем мужской? Что республика окутана, словно мифический Лаокоон змеями, табачным дымом, целеустремленная, назойливая, просто иезуитски глумливая реклама и пропаганда которого идет на достославном нашем БТ, с огромных рекламных щитов, "проросших", словно грибы-поганки, по всему городу-герою Минску?..

Но тем не менее производство водки растет, все новые и новые ее сорта появляются и на наших "ликеро-водочных" предприятиях, и вагонами (наряду с пивом "Балтика") идут из "братской" России... Сверните с проспекта Скорины чуть в сторону — и на лавочках скверов и бульваров вы увидите ухватистых мужичков, колдующих над "злодейкой с наклейкой". А в парках, на пляжах Минского моря, "Дроздов", под сиденьями электричек валяются сотни, тысячи пиво-водочных бутылок. С гражданами и гражданками, от которых несет, как из пивной бочки, буквально не разминуться в общественном транспорте; "по пьяни" ежедневно совершаются десятки преступлений и убийств; сгорают дома вместе с жильцами, склады, колхозные амбары и целые фермы, совершаются изнасилования, кражи и грабежи, аварии с трупами на дорогах...

А ЛУКАШЕНКО ОБО ВСЕМ ЭТОМ НЕ ЗНАЕТ? ЗНАЕТ. НО МОЛЧИТ. И ДРУГИМ — ВСЕМ СВОИМ ПРОПАГАНДИСТАМ И АГИТАТОРАМ, ОРФЕЙЧИКАМ И ПТИЧКАМ-ПЕВИЧКАМ ИЗ ПРЕДАННЫХ ЕМУ "ЧЕСТНЫХ" И "СОЛИДНЫХ" ГАЗЕТ, ИЗ БТ ВЕЛЕЛ МОЛЧАТЬ, "КАК РЫБА ОБ ЛЕД"...

### Женщины и дети

Напомню, что недавно говорил Лукашенко в Минской городской гинекологической больнице по случаю введения в строй по современному оборудованного операционно-реанимационного блока. Да, такой "блок" уже работает. Но разве этот, в сущности, частный факт, да еще не на периферии, а в столице республики давал право Лукашенко высокопарно заявить: **"Для государства нет более высокой цели, чем здоровье нации. Женщина и дети — главная забота государства"?**

О женщинах я уже выше говорил. Теперь — о детях. Конкретно — о тех, совсем маленьких, которые ходят в детские садики (которые, кстати, закрываются один за другим). Столичный детсад №294, например. Опросите родителей малышей — и вам скажут, что их карапузы, придя домой из садика, сразу же просят... кушать. **За все лето дети здесь ни разу не видели помидора, огурца, банана, черешни, клубники... Трех-четырехлетних крох здесь кормят... просроченной консервированной (!) кабачковой икрой!** Сотрудники (тайком!) объясняют это тем, что районо этим самым "экономит деньги" на "более серьезные проблемы и нужды".

В такой садик Лукашенко никогда не приедет. Обходит такие "объекты" стороной и наше телевидение, которое почему-то называют "национальным".

Но народ мало-помалу прозревает, все меньше и меньше верит популистским заявлениям Лукашенко, на собственной шкуре, что называется, ощущая и чувствуя, что на голодный желудок, да без дорогих "лыжероллеров" не очень-то физкультурой и спортом тянет заниматься. И реагирует на это АДЕКВАТНО. В промежутке между улицами Матусевича и Ольшевского (в районе ДК тонкосуконного комбината) 4 ноября 1977 года был разбит парк им.60-летия Великого Октября, о чем свидетельствует огромный "памятный" кусок гранита с соответствующей надписью и силуэтом крейсера "Аврора". По периметру парка проложена асфальтовая "прогулочно-беговая дорожка", а точнее — "тропа здоровья" с соответствующими атрибутами, перечень которых был помещен на большущем стенде, украшенном девизом: "Превратим город Минск — в город здоровья, физкультуры и спорта". После того, как кто-то (тайком) приписал краской к этой надписи — "и секса", стенд закрасили, оставив только слоган "Тропа здоровья".

Фото IREX/ProMedia.

Но и после этого стенд разукрашивался непотребными словами какими-то "подпольными графитчиками". Теперь **"наглядная агитация"** всплошную закрашена и стоит совершенно "голой" — без единой надписи... Кто-то умыкнул и больше десятка декоративных валунов, обозначавших вдоль "прогулочно-беговой дорожки" каждые 100 метров с соответствующей медной табличкой. Со временем были раскурочены, изуродованы и в конце концов куда-то "растворились" следующие тренировочно-гимнастические снаряды: декоративные штанги (9 штук), несколько перекладных гимнастических лестниц, тренажер для поднятия тяжести и многое другое.

В центре парка, на обширном плоском взгорье была построена (в миниатюре, близкой к реальным размерам) старинная крепость со всеми атрибутами и коммуникациями; на что, по всей вероятности, ушло столько материалов, что их хватило бы на многоквартирный дом; "крепость" тоже разорена и сожжена. На "памятном" камне кто-то — опять же несмываемой краской — вывел известное ненормативное слово из трех букв.

Местные власти, видимо, давно поставили на этом парке крест, потому что большой рукотворный пруд до сих пор так и не заполнен водой и превращен, в сущности, в мусоросборник...

Я отнюдь не сторонник подобного хулиганства и варварства. Но понять обозленных, недовольных жизнью людей, особенно молодежь, которая так и не пошла за "бэпэсэнятами"-лукомольцами, в какой-то мере могу. Сытый голодному не брат. И потом, не я выдумал вот эти безумные строки: "Весь мир насилья мы разрушим до основанья..."

Впрочем... "весь мир", конечно же, ломать, разрушать не стоит. А вот мирно, конституционно изменить нынешний советско-сталинский режим, угнездившийся ныне в Беларуси, мы должны. Иначе история, весь мир нас не простят. Благо, скоро будет такая возможность. Ибо, как совершенно справедливо поется в той же пресловутой песенке под названием "Интернационал", — "никто не даст нам избавленья: ни бог, ни царь и ни герой"...

# "Добра яблычка к Іспасу..."

Так казалі нашы продкі, збіраючыся сустрэць адно з улюбёных у народзе святаў — Яблычны, або Другі (услед за Медзяным) Сярэдні (перад Хлебным) ці Вялікі Спас.

Гэта — свята садавіны. У гэты дзень людзі нясуць у царкву асвячаць яблыкі, грушы, слівы (з гэтай пары іх, як лічылася, можна есці), а таксама мёд і калоссі новага ўраджаю. Так будзе і заўтра, 19 жніўня.

А яшчэ ў народзе гаварылі: "Спас — усяму час": час уборкі збажыны, збору дароў саду, пачатак азімай сяўбы.

РЭГІЁН

## Прадаўжальнікі святой справы

Бадай, толькі ў перадваенны час умяшчалі сцены касцёла св.Антонія ў Паставах столькі вернікаў з нагоды ўрачыстасцяў пасвячэння ў святары траіх ураджэнцаў гэтай мясцовасці. Ва ўрачыстай імшы ў храме, пабудаваным у канцы XIX стагоддзя, удзельнічалі 84 ксяндзы. Блаславіў маладых новапрэсвітэраў на адказную службу Госпаду яго эксцэленцыя біскуп Віцебскі Уладзіслаў Блін. Кіраўнік Віцебскай каталіцкай дыяцэзіі таксама сустракаўся з прыхаджанамі аднаўленых у апошні час касцёлаў у Лучаі, Дунілавічах, Варапаеве. Характэрна, што паўсюдна касцёльныя службы вяліся на беларускай мове ўзнёсла і ўрачыста, завяршаліся святочнымі канцэртамі. Зрэшты, святароў з ліку беларускай моладзі, акрамя Гродна, пачала рыхтаваць вышэйшая духоўная семінарыя ў Пінску.

## Жыллё — галоўнае багацце

На прымальную аплату і добрыя ўмовы працы большасці вяскоўцаў зараз цяжка разлічваць. Крыху паднялі настрой сваім працаўнікам у калгасе "Іскра" Докшыцкага раёна, калі сёлета ўсіх жадаючых забяспечылі жылплошчай. Прычым тут не сталі чакаць дапамогі дзяржавы, а гаспадарчым спосабам самі пачалі ўзводзіць адразу шэсць жылых дамоў. Ключы ад двух асабнякоў ужо ўручылі дзвюм сем'ям, на чарзе яшчэ столькі наваселляў. А вось асноўны забудоўшчык у раёне ПМК-52 з-за недахопу бюджэтных грошай і неплацежаздольнасці большасці сваіх заказчыкаў прыпыніў у многіх месцах будаўніцтва жылля.

## З апошніх намаганняў

Нягледзячы на казённы аптымізм, на месцах ведаюць, што цяжкасцей і няўвязак на сёлетнім жніве яшчэ больш, чым у папярэднія гады. Як ні стараліся ў Міёрскім раёне падрыхтавацца да галоўнага экзамена года, але за тыдзень да пачатку работ яшчэ не было адрамантавана 89 са 160 камбайнаў. Нават з улікам атрымання дзесяці новых камбайнаў на 26 гаспадарак, нагрузка на найбольш распаўсюджаныя тут "Доны" ўзрасла да 173 гектараў. З мэтай эканоміі паліва на сушку зерня, якога цяжка дакупіцца, прыйшлося перавесці 17 цеплагенератараў і 4 барабанныя зернесушылкі на іншае паліва — дровы. Каб укласціся ў зададзеныя тэрміны ўборкі, людзей прымушаюць працаваць без перадыху ўвесь светлавы дзень. У нервовай абстаноўцы і спешцы, як і ў іншых месцах, не абысціся без страт пры абмалоце. Калі тэхніка дрэнна адрэгулявана, не мае належнай герметызацыі, страты ўзрастаюць у пяць і больш разоў. Не ад добрага жыцця ў 6 калгасаў накіравалі з горада 18 механізатараў, якія маюць навыкі ўборкі збожжа, ураджайнасць якога на Міёршчыне пакуль 17,7 цэнтнера з гектара.

## На паднoжным корме

Не маглі дачакацца ў закрытым акцыянерным таварыстве "Маліноўшчына" Глыбоцкага раёна пачатку амбалоту 280 гектараў уласнай зямлі, занятай збажыной. Фактычна на працягу ўсяго лета пагалоўе свіней з 9 тысяч галоў кармілі здробненай зялёнай травой. Дакупіцца зерня ў гаспадарках, камбікорму і канцэнтратаў на заводах праблематычна з-за іх адсутнасці ў вытворцаў. Таму не дзіўна, што ў самы спрыяльны перыяд года сярэднесутачныя прывагі жывёлы апусціліся да 150—200 грамаў. Вялізны комплекс, пабудаваны 20 гадоў таму, даўно патрабуе належнага рамонту і замены зношанага абсталявання, а калектыў па-ранейшаму балансуе на мяжы выжывання. А гэта вельмі няпроста, бо толькі за год кошт тоны камбікорму са 114 павялічыўся да 248 тысяч рублёў, калі свініна падаражэла зусім нязначна.

## Горкія супадзенні

Па нейкім дзіўным збегу абставін адразу ў трох калгасах Віцебскай вобласці з аднолькавай назвай "Прагрэс" адбыліся жыццёвыя трагедыі з гібеллю людзей. Спачатку ў Чашніцкім раёне моцна п'яны трактарыст сеў за руль трактара і перакуліўся на роўным участку дарогі. Чалавек загінуў яшчэ і таму, што ў машыны была няспраўная рулявая цяга. Позна вечарам на Пастаўшчыне старшыня таго ж калгаса "Прагрэс" на асабістай іншамарцы сутыкнуўся са сваім намеснікам. Абодва цяпер на лячэнні, а калгасны "УАЗ" ужо не належыць аднаўленню. Праз два дні пасля гэтага здарэння тут у возеры днём памерла галоўны бухгалтар гаспадаркі, якой ішоў 51 год. А ў Гарадоцкім раёне 16-гадовы п'яны слесар калгаса "Прагрэс" павёз днём на дойку загадчыцу фермы і адну з работніц. Выратавалася толькі апошняя, якая знаходзілася ў прычэпе. Юнак і яго начальніца ва ўзросце 40 гадоў загінулі, калі трактар з'ехаў у кювет і перакуліўся. Вёска співаецца літаральна на вачах, што за 7 месяцаў з пачатку года ўжо прывяло ў вобласці да гібелі 9 калгаснікаў на сваіх

# Поиграйте с букмекером

Букмекер — истинный знаток всех спортивных направлений. Игрок — азартный любитель, который предпочитает любому отдыху просиживание с баночкой пива у экрана телевизора во время трансляции телевизионного матча. Выигрывает профессионал. Но это не значит, что играть в букмекерских конторах бесполезно.

Эту игру нельзя сравнивать с игрой в рулетку или покер, где выигрыш на 99% зависит от везения. Когда играешь в букмекерской конторе, фортуна улыбается лишь на 50%, а в остальном должны преобладать — в идеале — знания, опыт, доступ к важной информации. Поэтому игру с букмекером скорее можно сравнить с игрой на бирже.

Мировые букмекерские конторы Camebookers и William Hill превосходят всех своих конкурентов. Причем во второй установлена минимальная ставка, равная 1,5 центам (примерно 216 белорусских зайчиков).

В Минске всего три конторы. Одна из них, довольно молодая, расположена в переходе на станции метро Октябрьская. Под соответствующим для себя названием "Статус кво". На несколько вопросов для "НВ" согласился ответить букмекер Олег.

**— Олег, какой самый популярный для ставок вид спорта?**

— Конечно, футбол. В основном на него и приходится принимать ставки.

**— А ограничения ставок есть?**

— Минимальная ставка 2000, максимальную определяет уже сам букмекер. Я могу принять 250 000. Если больше, то звоню директору.

**— И как часто клиенты выигрывают?**

— Наверное, 50 на 50. В основном выигрывают те, кто ведет статистику. Это очень важно. Тут очень много случайностей. Да и если бы часто выигрывали, контора была бы закрыта. Во всяком случае, я еще не видел, чтобы это дело было невыгодным. Посмотрите, букмекерские конторы во всем мире работают. В Англии им уже больше ста лет.

В час пик приема ставок у конторы не протолкнуться. А после игры проигравшие клиенты, кляня свою судьбу и букмекеров, полностью уверены, что первая к ним чрезмерно жестока, а вторые их дурят. Но азарт, как неизлечимая болезнь или наркотик, все равно притянет игрока к букмекеру, чтобы тот вновь испытал судьбу.

*Букмекер Олег приглашает рискнуть.*

**Дарья ГАВРИЛОВА.**
**Фото автора.**

ТАК ЛІЧУ

# Кожны іншы будзе лепшы

Не хачу верыць, што нехта ў здаровым розуме будзе галасаваць за Лукашэнку, а гэта значыць — за галечу, за бяспраўе, за страх, за хлусню, за смяротнасць вышэй нараджальнасці, за вынішчэнне ўсяго беларускага...

Ці ж можа мой бацька галасаваць за Лукашэнку, калі ён, трактарыст-машыніст I класа з 49-гадовым стажам працы, якому ў жніўні ўжо ісці на адпачынак, прынёс за май дадому... 6000 рублёў. I гэта ў калгасе "Новы шлях" Ляхавіцкага раёна, які лічыцца адным з лепшых у раёне!

Вясковыя крамы амаль пустыя, толькі крупы ды гарэлка. А цэны вышэйшыя, чым у горадзе. Не цешце сябе надзеяй, вяскоўцы, што Рыгоравіч днём і ноччу думае пра вас, няшчасных. Калі гаварыць адкрыта, то вы яму патрэбны, каб вешаць лапшу на вушы...

Я, хатняя гаспадыня, чалавек з вышэйшай адукацыяй, мой муж — прадпрымальнік, мой брат — электрык, мая маці — працаўніца, не разбэшчаная багаццем, — мы не будзем галасаваць за Лукашэнку. Ведаю: супраць яго палітыкі многія настаўнікі, урачы, прадпрымальнікі, усе, хто мае розум, годнасць, сумленне, хто ўмее думаць і адрозніваць праўду ад хлусні, хто не можа спакойна глядзець на зімоўскіх, казіяткаў, азаронкаў ды слухаць іх жахлівыя, пахабныя, зневажаючыя ўсіх і ўсё маналогі. Мы — супраць! Супраць продажу Беларусі ў Расійскую імперыю, супраць расколу Беларусі на рускіх і беларускіх, на ўладу і апазіцыю, на праваслаўных і "няверных", на багатых і бедных, на рабоў і гаспадароў, на начальнікаў і дурняў, нарэшце — на сваіх і ворагаў. Гэта Рыгоравіч нас так ужо падзяліў, той, хто крычыць аб стабільнасці і росквіце краіны.

Я не веру ў тое, што А.Лукашэнку няма альтэрнатывы. Я ўсім кажу: кожны іншы будзе лепшы.

**Марына ПАЛХОВІЧ, жыхарка г.Баранавічы.**

